АЛА КАНАПЕЛЬКА
НАРАДЗІЛАСЯ Ў 1960 ГОДЗЕ
Ў ВЕСЦЫ НЕБЫТАЎ ХОЙНІЦКАГА РАЁНА
ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ.
СКОНЧЫЛА
ЛОЕЎСКАЕ ПЕДАГАГІЧНАЕ ВУЧЫЛІШЧА
І ФІЛАЛАГІЧНЫ ФАКУЛЬТЭТ
БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА
ІМЯ У. І. ЛЕНІНА.
ЖЫВЕ І ПРАЦУЕ Ў МІНСКУ.
ВЕРШЫ ДРУКАВАЛІСЯ
Ў ЧАСОПІСАХ «МАЛАДОСЦЬ»,
«РАБОТНІЦА І СЯЛЯНКА»,
«НЕМАН»,
У ЗБОРНІКУ «ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ».

ПЕРШАЯ КНІГА ПАЭТА

Ала
Канапелька

# ЦВЕТ АЛЕШЫНЫ

**Вершы**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985

* * *

Родная мова,
Матчына слова...
Зорная завязь калін.
Песні вясновай
Тчэцца аснова
Словам паданняў, былін.

Ці выпадкова
Знойдзена слова,
Любы палескі мой край?
Пад жаўруковым,
Пад перуновым
Небам
            адбыцца мне дай,
Роднае слова!

**САДЫ**

Сады зямныя!
Высакосны лёс!..
Пялёсткі яблынь
Зноў плывуць у снежань.
Слязою ці расою свежай
Акропіць ноч пясчаны родны плёс.

А яблыні, як душы, прараслі
Тут, на зямлі, пад буйным зарападам.
І я іду старым зраселым садам
Праз цішыню адвечную зямлі.

Зноў яблык мякка падае ў траву —
Яшчэ адзін вузельчык на карэнні
Завяжацца на памяць...
Пакаленні!
Сады мае!
Схіляю галаву...

* * *

— Ган-но! —
Блукае няўцешнае рэха.
— Ган-но! —
Гукаюць, шукаюць вятры.
Снегам занесены сонныя стрэхі,
Моракам скутыя дрэмлюць двары.

Снегам расстання халодным, зімовым
Шлях перамецены —
шлях да вясны.
Ганно, ты ж ведаеш тую замову,
Каб адышлі непрабудныя сны.

Ты іх пашлі на бягучыя воды,
Ты іх на лозы сухія пашлі.
Ранняй вясною ў барвах усходу
Зноўку пратрубяць Яго жураўлі.

...Зорка ўзыходзіць над сцюжай,
над снегам.
Памяць жывою рабінай гарыць.
— Ган-но! —
Палескае коціцца рэха.
— Ган-но! —
Гукаюць над светам вятры.

## КРОСНЫ

Мама кросны снуе
І суворую ніць,
Як вучыла жыццё,—
На аснову.
— Ручнікі па вясне
Пойдзем, доню, бяліць.
Бацька выстружа пранік кляновы.

Накідае ў ніты
Мама чуйнай рукой
Ільняныя суворыя пасмы.
— Казачэньку, не ты
Мяне стрэў за ракой.
У людзей ні аб чым не пытайся.

Паплылі чаўнакі
У морак ніцяў густых —
Мама кросны на золку заткала.
Лёсу мой, ручнікі!
Светла вышыю іх.
... «Ой, у гаю зязюля кувала».

* * *

Год нараджэння — высакосны,
А дзень — вясёлая нядзеля.
Быў месяц люты бацькам хросным,
Галінкай коцікаў — надзея.

І сек па шыбах снег крупчасты.
Са сцёбкі складзеная хата.
Высока ў небе вецер шастаў:
Хто быў,
Хто стане вінаватым...

Дрыготка выбліснулі зоркі,
Год высакосны правіў небам.
Надзея — выстылая голька.
А ў цёплай хаце
Пахла хлебам.

ДОМА

Тут мой дом, тут мой кут —
Светла ў вёсны і ў зімы.
Поле жытняе.
Груд.
Тры бярозкі.
Радзіма!..
І як зрэбны сувой,
Шлях мой коціцца ўдалеч.
Пахне небам, зямлёй,
Як бульбоўнік запаляць.
Бацька спешна ў двары

Ладзіць вілы і граблі:
— Ну, дачушка,
бяры
Струмант,
Пойдзем на грады!
Вецер горне да ног
Агурочнік, бульбоўнік.
Кроп духмяны падсох —
Саграбаем любоўна...
Дым хаціны аплёў,
Быццам белая вея.
Над разлогай палёў
Смутак вёскі калее.

**СОРАК СЁМЫ**

Сорак сёмы...
Аблогай вясковай
Памяць горыччу не абміне.
...Крочаць дзеці па лісце кляновае
І з бяссоння гукаюць мяне.

Целяпаюцца кайстры пустыя,
Не напханыя лісцем яшчэ.
Як лісток, шэпт парывісты стыне:
«Мама хлеба... хлябку... напячэ...»

Шапаткія, віхрастыя клёны,
Гэтай вёсачкі помніце лёс:
Згаладалы, нямы сорак сёмы
Лісце ваша дачасна атрос.

Задыхаліся раніцай печы,
Папярхаліся дымам густым.
Хлеб-лісцянік пакутліва пекчы,
Пэўна ж, так не хацелася ім.

Прысмак хлеба кляновага сёння
Запячэ... з небыцця наплыве.
Бацька лусту бярэ...
Сорак сёмы
За сталом ва ўспамінах жыве.

* * *

Мая зямля пазначана ў Сусвеце
Світальнаю усмешкай белых дрэў.
Аднойчы тут сумеўся зорны вецер,
І прасвятлеў душой, і падабрэў.

Мая зямля развеяла ў Сусвеце
Тло папялішча — чорны дым вайны.
Ад зор далёкіх
промнямі дасвецця
Ў яе гаі вяртаюцца сыны.

Мая зямля пазначана ў Сусвеце
Зарою соснаў партызанскіх і кастроў.
Над вечнасцю свяшчэнных алтароў
Крыламі б'е яе вандроўны вецер.

## НА ПАЛЕССІ ВЯСНА

На Палессі вясна —
Раўчукі, раўчукі.
Засвяціла вярба сонцы-коцікі.
І палошчуць вятры
Ручнікі, ручнікі —
Туманы белым-белыя коцяцца.

У нябёсах буслы
Над сялом, над сялом.
Шыбы чыстыя сонцам залоцяцца.
Кроны белых бяроз
Пад крылом, пад крылом.
Паплавы аж займаюцца лотаццю.

На Палессі вясна —
Жаўрукі, жаўрукі.
Мурагі на пагорках цянюткія.
Пазірае сяло
З-пад рукі, з-пад рукі —
Жураўлінае неба паўнюткае.

* * *

Далоні зямлі — у пражылах дарог,
Бы ў ломаных лініях долі.
У хаты бацькоўскае — зорны парог,
Красуе вясёлка над полем.

Вяртаецца вырай — за ўзмахам узмах.
Зноў песні ў гняздзе паўтарыцца.

Салодка-гаркавы дымоў родны пах,
Жывая вадзіца ў крыніцах.

Бярозавік чысты. Смакую глыток.
Пралескаю цепліцца смутак.
Шчэ новых дарог непачаты клубок,
Бярозавы снег некрануты.

* * *

Час цвіцення алешыны.
Завушніцы яе.
Чым, смуглянка, ты грэшная?
Вецер косы заўе.

Зерне дробнае, горкае
У журбе прарасце.
Густа чорнымі гронкамі
Дзень твой ціхі цвіце.

Сок гарчынай замешаны,
Набрыняла кара.
Час цвіцення алешыны.
Лёс, яе не карай.

* * *

Вы малявалі вясну:
Дрэвы ў пупышках
і горад,
Прадвечаровае неба, прыгорак.
Вы малявалі вясну,
Рэчку
і ўсё, што яна
Адлюстравала ў Сусвеце.
Па-за малюнкам быў вецер,
Вецер вясновы і я.

* * *

Падарыла мне бабуля завушніцы,
Поўні срэбныя — да чорных кос.
Урадзіла лета на чарніцы,
Урадзіла травы на укос.
У брадах чысцюткая вадзіца,
Тоненькі аеравы лядок.
«Ой, не раз, унучачка-сініца,
Прыляціш на мой лясны брадок».
Завушніцы торгне вецер золкі —
Замігцяць рамонкавым святлом.
І дзявочай раніцы вясёлкі
П'юць ваду з рачулкі за сялом.
Пройдзе лета мяккім траўным долам,
Убярэцца пацеркамі рос...
Чэрненыя памяццю і доляй,
Свецяць поўні срэбныя з-пад кос.

3 Зак. 646

* * *

Дарогі — стрэламі ў бясконцасць.
Мой васількова-жытні дзень,
Сагрэй світальным промнем сонца,
Цяплом паўдзённым абнадзей.

Імчаць зямныя вёрсты лётка,
Расстаннем кмечаны: — Бывай!
З вядром паўнюткім стрэне цётка...
Прывеціць край,
Бацькоўскі край...

Вітаем спешныя дарогі,
Усходы нашы — радасць, золь.
А нашай памяці аблогі
Расою свецяць, як слязой.

* * *

Выспела лета сунічнае.
Вось і чарніцы пайшлі.
Смутнае і навальнічнае
Неба ў палескай зямлі.

Ноч арабінавым полымем
Вокны асветліць мае.
Вёска.
Рабіна над помнікам —
Ранак гарыць ад яе.

* * *

Далёкія і блізкія зарніцы.
Ноч гушкае
Стамлёнае жытло.
Мінуцца, сыдуць з летам навальніцы.
А бусел зноўку ахіне крылом
Мой светлы дом, шчаслівае дзяцінства.
Я тут залётнай птушкаю з дарог.
Мурожны лёс забытага дзядзінца
Умыты росамі зямных трывог.
Перагукнуцца дальнія зарніцы
Ў тугой праднавальнічнай цішыні...
Ахоўнае крыло бусла прысніцца
Яшчэ не раз у дрогкай вышыні.

* * *

Разлад між зямлёю і небам.
Маланка закрэсліць спакой.
І вось вадаспадамі вербы
Шумяць над маёю ракой.

Нацятыя струны-галіны —
Аголеным нервам зямлі.
Уброд пераходзяць каліны
Палескае рэчкі разліў.

Да нітачкі вымаклі травы.
Шукае вада берагі...
Расходзяцца цішы кругі.
І так урачыста світае.

* * *

Вузельчык, што завязаны табою
На памяць,
                    я спакойна развяжу.
О, як дажджыцца ўпору лістабою,
І сеюць кроплі шэрую імжу.

Спявалі звонка цёткі на дажынках...
Тугі вузельчык развяжу сама.
Шчэ высеяцца травам на сцяжынках,
Якімі прыйдзе белая зіма.

* * *

Пагляд, як плётка, сцебануў.
Судзіце ўволю, маладзіцы.
Вузенькай сцежкаю іду,
Што вы ў густым праклалі жыце.

Валошак дзіўнае святло.
Красуе жыта маладое.
І кані шэрае крыло
Над сцежкаю
                    ці нада мною...

* * *

Чыё вяселле на сяле
Абцасы сёння адбівае?
Скачы, каханка, весялей,
Хай дзіву дасца маладая.

Як пеніць хмельнае віно,
Ды не ў тваім застольным садзе.
За шчасце п'юць тут, а яно
Расой на чый парог асядзе?

І джала плёткі, бы агнём,
Шчэ апячэ душу і вочы.
Ты забывацца будзеш днём,
Ды помніць будзеш сярод ночы.

Гудзе вяселле на сяле.
Чый крык у травах пахаваны?
Скачы, каханка, весялей,
Каб воч узняць не мог каханы.

* * *

Цапамі — маланкі па долу...
І слаліся травы, жыты.
Жагналіся бабкі тады
І хаты свяцілі вадою.

Крыж-накрыж — рассечана неба,
Крыж-накрыж — за вёскай шляхі.
Успыхвалі свечкамі вербы
На тых скрыжаваннях ліхіх.

Я ведаю: нечую долю
Дачасна пярун прычашчаў.
Ахвяра-вярба — у вачах.
І сонца — па чыстаму долу.

* * *

На дарогах — там вецер адзін:
Засмяецца, то зойдзецца крыкам.
Ты на голас мой
больш не ідзі,
Не вяртайся —
мой голас не клікаў.

Не вяртайся...
У промнях зары,
На рабінавай ночы зломе,
Адсмяецца, адплача ў бары
Ён зязюлькаю, а не па-злому.

І паміж зарунелых палёў
Адаб'ецца, раскоціцца рэхам
Для падхмарных сівых жураўлёў,
Для цябе, што навечна паехаў.

Зноў трывожную памяць будзі,
Голас мой, у хвіліну расстання.
У світальнай зары, у тумане
Ты на голас мой
больш не ідзі.

## ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

Світае...
Затуманеныя шыбы,
Дажджынкі на дрыготкіх правадах.
І вецер стомлены ў абдымках ліпы,
І мутная халодная вада.
І хмара лёгка, вольна адплывае.
Аціхлы жаль не трэба варушыць —
Пануе ціша паслядажджавая,
Спакой пануе дзіўны на душы.

* * *

Мне свайго не пазбыцца...
Толькі ўсхліпне рака.
Толькі — чуж-чужаніца —
Зашуміць асака.

Толькі — чуж-чужаніца —
Крыкне чайка ў начы.
Пад вярбінай пад ніцай —
Аб маім — памаўчы.

Не пяройдзе русалка
І парослай мяжы.
Мне зязюля-гадалка
Зноў кувае: чужы!

Памяць зыркай зарніцай.
Час, як Прыпяць, плыве.
Зорка — чуж-чужаніца —
Свеціць росна ў траве.

* * *

Стома ў павеках,
                    стома і ў жылах —
Збораю ноч адчарнела.
Вамі, бяссонніца, я даражыла,
Вас пазбывацца не ўмела.
Душу хмяліла
                    світання цвярозасць.
Раніцы кліч жураўліны.
Свецяцца ў мораку золка бярозы,
Быццам праз вечнасць хвіліны.

## СЦЕЖКІ

Заўсёды пакручастыя,
                    яны
Ля селішчаў забытых у самоце
І ўдзень адны, і ўноч адны, адны,
Бы ўдовы на завеях і на слоце.

Дажджам ісці... Снягам іх замятаць...
Звяжы ў адну — абыдуць свет шырокі.
Мне ў сцежак гэтых хочацца спытаць:
Забытыя, чые вам сняцца крокі?

## ВАЎЧАНЯТЫ

Шасцёра ваўчанят
Даверліва-пужлівых.
Шэсць скурак.
Сума круглая — не здань.
Пашчасціла? Але,
Пашчасціла, мажліва.
Ты, homo sapiens,
Перад прыродай стань!
Не ўберагла...
Што выць,
Качацца ў стылай поўсці?
Смурод парахавы
На завушніцах траў.
Бязлітасць у вачах...
І ведаю:
                    адпомсціць.
Бо за дзяцей яшчэ
Ніхто не дараваў.

* * *

У самую горкую, злую хвіліну,
Калі ўжо не здраджвае толькі бяда,
Скацілася смолка-слязіна з хваіны,
З хваіны-чужыны сляза — не вада.

Сястрою назвалася
                              з русай касою
Жанчына чужая, не роду майго.
І хтосьці маліўся, працяты красою,
І слухала чорнае неба яго.

Маліўся на тую, што ў бога не верыць,
На тую, што стрэў выпадкова на міг.
Бяда адплыла на аеравы бераг,
І боль цішынёй саступіў і заціх.

У самую горкую злую хвіліну...
Я рэхам зраблюся, каб ціха згадаць:
Скацілася смолка-слязіна з хваіны,
З хваіны-чужыны сляза — не вада.

* * *

Ноч, навылёт працятая стралою болю.
Пяе тугая крыўды цеціва.
І Млечны Шлях —
дугой над чорным полем.
Калючае іржышча маёй волі.
Надзел жыцця чым буду засяваць?

Любові зерні сонечныя кіну,
Хаця збярэ мо вецер ураджай.
Сыходзяцца пад небам жураўліным
Над горкаю палаючай калінай
Крылом — надзея і стралой — адчай.

* * *

Восень едзе на ра́бым кані.
Сярод свету — разветраны сад.
Як калянае лісце калін,
Вераснёўскі плыве зарапад.

І адрынуты голас ад слоў.
Толькі памяць — у вецер, як крык.
Зноўку белыя крылы буслоў
Жаль нясуць праз чужы мацярык.

А над краем — тугая туга:
Восень, вецер і чыстая ноч.
І глядзіць мірыядамі воч
Неба ў душу...

* * *

Зашапчы гэты боль, дождж лістоты.
Залаты лівень, лівень барвяны.
Ў травы познія падаюць ноты
Музыкі невяртання.

Невяртанне без слова, пагляду,
Проста так — не вярнуся аднойчы.
А на памяць — святло зарападу
І халодныя восені вочы.

Зашапчы гэты боль, дождж лістоты,
Ноччу ззяблай, парою світання.
У далонях барвяныя ноты
Цішыні невяртання.

* * *

Зноў іду па халодных брадах
Да чырвонай і горкай каліны.
Калі сніцца вада,
То патрапіць бяда.
А мой год
урараджайны на ліўні...
Акрываўлю зялёны лісток,
Быццам каня, з яго я нап'юся.
Горка хмеліць калінавы сок...
Калі сніцца вада — не дзіўлюся.

* * *

Не смяецца, не плачацца,
І бяда — не бяда.
Можа, ўсё перайначыцца? —
Ападае вада.
Можа, зноўку праклюнецца
Зерне болю ў душы.
Шэрым-шэрая вуліца,
Адзінота машын.
Цішыня — не дарадчыца
У глухіх правадах.
Не смяецца, не плачацца,
І бяда — не бяда.

* * *

Усе пайшлі —
Хто ў сны, а хто ў трызненні,
Хто папракнуць,
Хто дзякаваць...
Імжа...
Ды не было між імі
Твайго ценю.
Там я адна —
І чорная мяжа.

Вугельчыкі рабіны
Гасіць восень.
Зноў узышоў,
Хаця і хмарны, дзень.
Доўгачаканы ліст,
Далёкі — вось ён:
Ты пішаш, каб чакала —
Ты ідзеш.

* * *

Світання,
Нібы дыхання!
Усходу —
Зорнае згоды!
Голас трэцяга пеўня
Дорыць збавенне
Ад доўгае ночы,
Няпрошаных думак.
Акон пашарэлыя мяккія вочы—
Ратунак...

* * *

Я стану шчаслівай, шчаслівай
На верасня светлай мяжы...
І восень лясы апаліла,
Забудзь, не вяртайся — чужы.

Агністая наша дуброва
Пагасне ў снягах, адпяе.
Хай нават зласлівае слова
Абыдзе сцяжыны твае.

А заўтра, світанкам дажджлівым,
Душою, былому чужой,
Я стану шчаслівай, шчаслівай
За верасня светлай мяжой.

* * *

У ранняй восені глыбокія нябёсы,
Як вочы мамы,—
Сум не пераплыць.
А па-над прыпяцкім змялелым плёсам
Самотна каня кружыць, просіць піць.

На ветры клён трапеча і палае,
Карэннямі адчуўшы боль зямлі.
Трывожная прастора...
Жураўлі...
Узмахі крыл...
І ліст між іх крыляе.

У ранняй восені высокія нябёсы.
Благаславёны на зварот адлёт.
Ступаюць ціха босыя бярозы
На першы крохкі лёд.

## ПТАХІ

Адкласці развітанне, мае птахі,
Надалей не магу —
няўладна я.
І з восеньскага неба крыкі-ўзмахі
Збірае, быццам боль, душа мая.

А песня, як і доля, застаецца
На скошаных і выстылых лугах...
Яна высокай зорцы адгукнецца
Зямным цяплом
у вечнасці снягах.

* * *

Зямля мая!
Рабінавы адчай —
Віной людской твой лёс адвечны повен.
Ад берага зялёнага адчаль,
І мой таксама
Адзінокі човен.

Рака мая!
У роспачы віроў
Хай захлынецца крыўд будзённых хваля.
Ад бальшакоў і да сцяжын звяроў
Расы гаючай ночка прыхавала.

Віны і крыўды знічка мільгане
Па-над рабінамі, што восень накаліла.
Любоў і боль сыходзяцца на мне.
І ў тым, зямля, твая жывая сіла.

* * *

Глыбела неба, зоркі халаднелі.
Ступала восень зорнай паласой.
Апошні мёд насілі пчолы ў келлі
На санцагрэве з буйных верасоў.

За жураўліным клінам павуцінка
Плыла трывожна з восеньскай вярсты.
...Яшчэ сініцам весела адцінькаць
У голлейку пажоўклыя лісты.

А там дажджы рабінай апякуцца,
І выпадзе халодная раса...
Не, не мае красёнцы гэта ткуцца,
Не мой — халоднай восені пасаг.

І не мае то вусны загарчылі
Салодкім мёдам позніх верасоў...

І сняцца сны ўспамінамі чужымі.
Ступала восень зорнай паласой,

* * *

Страсала дзічка грушы на раллю,
Тугія, дробныя, як зоры.
Туман спаў стомлена ў разорах.
Высвечваў Млечны Шлях зямлю.

І шляхам тым сыходзіла ў нябыт
Усё, што на зямлі спявала.
Вятры кружылі недзе ля арбіт
Пагаслых зор,
дзе чорныя правалы.

Страсала дзічка грушы на раллю.
І на мяжы палын
паклон глыбокі
Слаў восені...
Плылі аблокі
У далеч дзён
пад крылы жураўлю.

* * *

Апошні раз заломіць рукі
Маланка ў хмарнай вышыні.
Расой асыпаліся гукі
Безжаўруковай цішыні.

І да сяла сцяжынкай шэрай
Падыдзе досвіткам зіма.
Усім, чым лета адшумела,
Мае распіша вокны шэрань
Загадкай белага пісьма.

* * *

Неруш майго снегападу,
Белая плынь цішыні.
Светлая, ціхая радасць —
Снежны акорд вышыні.
Музыка шчасця і болю.
Ноч —
І зліецца святло
Снегу і зорак...
У полі
Столькі дарог замяло!

* * *

Я апраўдаю снег цяжкі,
Мяне снег лёгкі апраўдае.
Зіма, навек мой сум пакінь
У гэтых стылых белых далях.

Змані багаццем хоць якім...
Ды за любоў плаціць — не срэбрам.
Русалка з месячнай ракі
Ідзе насустрач белай грэбляй.

І ў цэлым свеце — ні душы.
І я зіме — цяпла данінай.
Звініць высока у цішы
Заледзянелая галіна.

* * *

Ішла да Вас праз вёсны,
Ішла узмежкам лета,
Праз лістапад і восень,
Каб, снежанем сагрэтай,
Вас апячы сняжынкай
Пад чорным зорным небам.
Вясной засвецяць вербы
Над белаю сцяжынкай.

* * *

Я стану такой, як ты хочаш.
Святлее сумётамі ноч.
Па снезе глыбокаму крочу,
Твой голас,
наказ твой:
— Не збоч!..
Гарачаю гронкай рабіны
Завею, зіму апалю...
Нясуджаны мой, ды адзіны,
Я стану такой —
Я люблю.

* * *

Завейнаю, зімовай
Вам перайшла я шлях
З язычніцкай замовай
На вуснах і ў вачах.
Згарэла ночка znічкай
Ў захмеленых снягах...

Калі лясной сінічкай
У шыбу навіна
Пастукае аднойчы —
Вазьміце чысты ліст:
Далёкай белай ночы
Забыць Вы не змаглі.
...Язычніцкай замовай,
Праменьчыкам святла,
Завейнаю, зімовай
Я з памяці прыйшла...

* * *

Колер памяці сіні і белы...
Так пра Вас лёгка мне ўспамінаць!
Неба яснае зоркамі спела,
Адлівала ў снягах даўдна.
На марозе звінелі яліны,
Пакідалі завеі кругі.
І згаралі, як знічкі, хвіліны.
Тая ноч — са святла і тугі.

Колер памяці белы і сіні...

* * *

Ціхая радасць сіняга поля,
Памяць валошкаю свеціць.
Ці ж наракаць мне на долю?
Ведаю, ёсць Вы на свеце.
Зорак святло —
З безыходнага болю.
Мая і снежаня квецень.
Ведаю, ёсць Вы на свеце.
Ці ж наракаць мне на долю?

* * *

Гэта першы мароз толькі жорсткі,
А зіма — не ліхая зусім.
Лёгка кружаць сняжынкі-пялёсткі
Белы танец задумлівых зім.

Перамецены ў полі дарогі —
Паганяй куды хочаш каня
Да расстайнай, світальнай знямогі,
Да іскрыстага, яснага дня.

* * *

О снег цяжкі на тоненькіх галінках
І цішыня маўклівае начы!
Святло ад месяца —
У срэбраных пылінках —
Сагрэлася на любага плячы.
Світанне разаб'ецца змёрзлым промнем.
Зімовы дзень іскрыцца навіной.
І тонкае святло навек запомню —
Яно мяжой
Між доляй і віной.

* * *

Святло на веях сон расчаравала,
Усмешка вусны любыя кране.
Начы намітка знікла і растала,
Святло снягоў ліецца, як раней.
Мароз на шыбах вымудрыў узоры —
Сутонліва сінеюць касачы,
І ззяе снег пад сонцам,—
быццам зоры
На белы дол спускаліся ўначы.

* * *

Цяпло снягоў
Не зроўніцца з цяплынню
Вясновае ці летняе пары.
Але я ўдзячна гэтай белай стыні
За той — сярод снягоў — душы парыў
Да шчасця,
сонца,
чыстага світання...
Завейных зім калючае святло.
І ёсць яму на свеце апраўданне —
Тваё, каханне, белае вясло.

* * *

І выпаў снег.
Так скончылася проста:
З цяжкой, навіслай хмары —
Лёгкі снег.
І цішыня — сняжынак ройны россып
Перамяце дарогі, занясе.

* * *

Асыплецца снег з прыдарожных галін,
Асвеціцца ноч зарападам.
Ласкавыя, тонкія лапкі галін
Надломіць ці лёс, ці выпадак...

Заблудзіцца слова і вернецца ў ноч
На нечы агеньчык далёкі,
Асветліцца, цёплае, промнямі воч,
Як дрогкая зорка ў аблоках.

І сыдуцца недзе дарогі на клін.
А памяць — плыве снегападам.
Разлукі... Сустрэчы... Выпадак...
І сыплецца снег з прыдарожных галін.

* * *

Белы вецер прылёг на парог.
Заінелых акон пералівы.
Каб на свеце не столькі дарог,
Мо была б па-жаночы шчаслівай.
Каб на свеце не столькі дарог,
Не журылася б сэрца расстаннем.
І мяне ты, напэўна б, збярог...

Белы вецер увесну растане,
І сумёты самоты сплывуць
У далёкія землі чужыя.
На разлучнай халоднай мяжы я —
Не дайсці, не гукнуць, не вярнуць!

* * *

Выйду зноў у белае бяссонне,
Дзе зіма страчаецца з вясной.
Мне цябе не дагукацца сёння,
І табе не стрэціцца са мной.

Будзе ранак — сцюжай апавіты,
Будзе сонца — зернейка з нябёс.
Пазалоцяць кроплі акавіты
І зіму,
І лецейка,
І лёс.

Толькі смутку снежнае сутонне,
Толькі ветру рванае крыло.
І стаю я ў стрэчанскім бяссонні...
На світанні ночку замяло.

* * *

Яшчэ апошні будзе снег,
Цяжкі, як позняе світанне.
І юнай трызніцца вясне,
Як непазбежнае —
расстанне.

Сплывае ноч у туманы.
Над лёсам круг адвечны сонца.
Душа, наноў павер, змані,
Што на зямлі —
дарог бясконцасць.

Які трывожны дальні збег
Маіх нябёсаў і надзеі.
У драме
у самай першай дзеі
Апошні
ціхі-ціхі снег.

* * *

А поўнач зноў ішла на злом.
І вецер біўся, горадам распяты.
Няма гарчэй ад гэтых слоў:
«Я прад табою, знаю, вінаваты...»

Зноў Млечны Шлях.
Вякі, вякі — назад!
Іуда ў зорах медную манету
Угледзеў...
Над збалелаю планетай
Любові й здрады вечны зарапад.

* * *

Агонь і меч зямлю лютуе.
Пасцель ці мякка вою слала?
Народ назваў жанчыну тую
Высокім імем —
Гарыслава!

Незваяваны ранак дымны.
Крык жураўліны несціханы.
Жаночы боль —
Ён неабдымны:
Радзіма,
Помста,
Смерць,
Каханы...

* * *

Утрапёна зара
Загарыцца на ўсходзе.
Мусіць, гэта пара
Нечых сумных зыходзін.

І цяжэе святло —
Лёсаў зорная замяць.
Што хмурынкай плыло
Над зямлёй?
...Ты і памяць.

* * *

Май абяцаўся на завязь багаты.
Мералі цёплыя лужыны дзеці...
Сёння хавала салдата
Самая ціхая вёска ў Сусвеце.

Цяжка, працягла жанкі галасілі,
Горка — дзяўчаткі, бы ўдовы.
Потым мужчыны травы касілі,
Вяў у пракосах поўдзень мядовы.

Самая ціхая вёсачка ў свеце...
Выйдзе матуля на ганак.
Зоркі трывожна-далёкія свецяць,
І маладзік — быццам рана...

* * *

Пакацілася зорка з рукі —
Перамелецца лёсу жорнамі.
Раздорвалі ручнікі
Вышываныя, беражоныя.

Сцежкай белай ішлі туманы
Цераз поплаў
                    пад поўняю.
Не было ні віны, ні маны —
І плыла поўным рэчанька поўная.

Пакацілася зорка з рукі...

* * *

Валянціна Цінаўна...
Цінь-цінь!
Сінічок ізноў ляціць да сонца.
На цянюткіх нітках павуцін
Восень ладзіць жоўтыя красёнцы.

Папрашу я ў сонейка цяпла,
Каб сагрэцца і зямлі, і людзям.
Хай не будзе зноў крывавых плах,
Зайздрасці і злосці хай не будзе.

Ясніцца дасветнае святло.
Сінічок ляціць, надзеі поўны.
Не згары, маленькае крыло!..
Промень дабраты, зямля, запомні!

* * *

Я толькі жураўліны крык.
Душу чыю трывожу?
Той крык усплыў і знік
У небе непагожым.

Наяве ён ці ў сне
Аб зоры разаб'ецца.
Згадаецца вясне
Аб жураўліным сэрцы.

* * *

Васількавая зорачка,
Буйнае жыта.
І на гэтай зямлі — не іначай.
Перапёлачка шэрая,
Ой, раскажы ты,
Чаму песня
                    світальная
                                    плача?

Перапёлачка шэрая,
Чыстыя росы —
Ад вясновых да восеньскіх —
                                    ты паспытала.
Расплятала дзяўчына
Чарнюткія косы,
Ды каторая з рос найсвятлейша,
Пытала.

Выйдзе сонца з-за гаю,
Сагрэе сцяжынку,
Што разлучнаю песняй абжыта.
Падпяе перапёлка
                        і мне
                                на зажынках.
Васількавая зорачка...
Спелае жыта...

* * *

Не разгадаць, не зразумець,
За што разлучная сцяжына?
І асыпаецца ажына.
Невекавечна клёнаў медзь.

Па кругу — сонца над зямлёй.
І боль чужы чужая восень
Кляновым лісцікам праносіць
Ды над табой і нада мной.

Не разгадаць, не зразумець...

* * *

Як рэчку пераходзіць позні снег,
Твой лёс і памяць ціха перайду.
І лёгкі чоўнік зноў вясна знясе
На чорную глыбінную ваду.

Нальюцца вольхі сонечным святлом —
Аж пырсне сок з надломанай галіны.
Твой лёс і памяць...
Прыпяць...
Крыгалом...
І ні слядочка ў весняй каляіне.

* * *

А вецер — бярозку галубіць,
Галінку баіцца параніць.
О, ведай, каханы мой, любы —
У лёсу няма неабранніц!

У лёсу няма неабранніц.
На гэтай зямлі ўсе для шчасця.
Цнатлівасць усмешлівых раніц
Не трэба, хмурыначкі, засціць.

Зазвоняць у лузе званочкі,
Нібы пад дугою вясельнай.
Плывіце, вяночкі, праз ночкі
Пад яснаю зоркай вясенняй.

* * *

Перад дажджом
Так хмельна веюць травы —
Не павініцца,
Не адазвацца.
І шэпчуць ветру
Раннія атавы:
«Даганяючы,
не нацалавацца».

Будзь бласлаўлёна,
навальніца!
Дажджынкай светлай будзе страта.

І дзёрзка ў садзе пахне мята —
Не даравaць,
Не павініцца...

### Я НЕ МАГУ НЕ СНІЦЦА ВАМ

Я не магу не сніцца Вам,
Калі іду ў начное поле,
Дзе лёс глядзіць вачыма болю...
Я не магу не сніцца Вам.

Не разбуджу, не патрывожу —
У час няўмольных зорных драм
Саснюся ціхім бэзам Вам...
Не разбуджу, не патрывожу.

І будзе ластаўка спяваць
Аб невяртанні і вяртанні.
Сплыве туман, і сонца ўстане.
Так, будзе ластаўка спяваць.

Той сон згадайце на світанні.
Нялёгка вобраз узнавіць,
Ірвецца памяць, быццам ніць...
Той сон згадайце на світанні.

Я не магу не сніцца Вам.
Мой боль навек неадбалелы.
Расстайны май — як вэлюм белы...
Я не магу не сніцца Вам.

* * *

След змываюць на золку дажджы,
Навальніцай няўцешнаю — страта.
Беражы ты мяне, беражы.
Горка пахне халодная мята.

Густа выспела зерне ажын,
Белы ручанькі памяць уколе.
Беражы ты мяне, беражы...
Не вяртаецца рэха з «ніколі».

На рамонкавым зломе мяжы
Каня выплача ночку адчаю.
Варажу я па знічках начамі:
«Беражы ты мяне, беражы!..»

* * *

Лісты, нібы крыўду, гартае
Задумная восень ўначы.
Шапочуць дажджы пра вяртанне.
А мы — памаўчым, памаўчым.

Шпакі пракрычаць на світанні,
Хто з нас вінаваты і ў чым.
Дзесь песню пяюць аб вяртанні...
А мы — памаўчым, памаўчым.

* * *

І перакрэслю новы верш —
Боль на кругі свае вярнуўся.
Гукну у цемру:
— Як жывеш?!.
І закрычаць адлётна гусі.

О дай на ўсё адказ мне, час!..
Ні слова добрага, ні злога.
Гарыць неон білетных кас
Над паланянкаю былога.

Расінкай звонкай —
як жывеш? —
Надзея скоціцца пад ногі.
Клён у агні бездапамогі...
І перакрэслю новы верш!

* * *

П'е галубка ваду,
Ой, сцюдзёныя кроплі.
Абміну, абыду
Крынічэньку яе,
Дзе скацілася зорка
Слязінкаю цёплай.
У заснежаным золку
П'е галубка ваду.

* * *

Пад рабінавай зоркай,
І гарачай, і золкай,
Я прызнался свету ў любові.
І, здарожаны ў леце,
Адгукнуўся мне вецер,
Як душа невыказнага болю.
Палыны прашапталі:
«Нашу горыч надалей
Мы падзелім пароўну з табою».
І гарэлі рабіны,
Як сузор'і радзімы...
Я прызналася свету ў любові.

* * *

Ляцелі на змярканні жураўлі.
Стаміўся вецер і згубіў дыханне.
Сышлося неба клінам, як каханне
Сышло на цень па восеньскай раллі.

Ляцелі на змярканні жураўлі.
Зліваўся захад з вогнішчам рабіны.
А з краю неба і пустой раўніны
Ступала восень па сырой зямлі.

Высокае ў самоце
змен крыло!
Адлёт той вечны — на заходзе сонца.
Не верне крыку змрочная бясконцасць...
Быў позні дождж.
О, як ліло!

* * *

На хаўтурах паэтаў адплачуць нябёсы...
Густа, росна бярэцца асмужаны дзень.
І не раз яшчэ ўмыюцца ў смутку бярозы,
І не раз яшчэ ўздрыгне зіхотна прамень.

На хаўтурах паэтаў маркоціцца Слова.
Тут, у скрусе зацятай, прыціхла зямля.
Бессмяротны ім рэквіем —
пошум дубровы,
Над палямі Радзімы —
вечны крык жураўля.

Ціха пройдуць дажджы
свежай пожняю колкай.
Утаймуецца боль на расстайнай мяжы.
Ды журбой-сіратой
ноччу, досвіткам золкім
Песні іхняй няспетай у небе кружыць.

## БРАТУ

Пра карову, пра сена гамонка.
Грэю ліст у далонях, нібы птушаня.
...Брат ідзе па траве, па рамонках,
І пад ногі плыве цішыня.

Мы сустрэчы нявыказна рады,
А хвіліны, як дождж ля варот.
І — употай — на неба пагляды.
Толькі мірнага
зычыць народ.

...Грозны гул самалёта патоне.
Ты адчуеш прастору і час.
Стропы лёсу нацяты ў прадонні.
Брат, жыццё выпрабоўвае нас.

Зорак вечны палёт не стрымаці —
Гэтай верай жыву і жыла...
І прачнецца ўстрывожана маці
Ад тугога начнога святла.

* * *

Вярніцеся!
Мінула безліч год.
І памяць стала светлаю расою...
У зорным небе
верасня зыход.
Ноч з чорнаю расплеценай касою.

Святло і жаль ліюцца у душу.
Лягло маўчанне паміж нас, як мора.
Я зоркі ні адной не патушу.
Вярніцеся! —
Як вецер і як мроя.

## БЕРАЖЫЦЕ КРЫНІЦЫ

Асыпаюцца зоркі, як зёлкі,—
Гольку памяці стылай краніце.
Да зямлі прыпадзе вецер золкі:
Беражыце крыніцы!

Восень.
Вырайна.
Мама і вецер.
Позняй кветкаю жаль караніцца.
Жураўлінай любові паверце —
Зберажыце крыніцы!

З незваротнага поля ўсё крочыць
Юны воін у бліках зарніцы.
Узіраюцца зоркі у вочы:
Беражыце крыніцы!

Край азёрны,
                    рачулачак ніці.
Каласком вечнасць спеліцца ў жыце.
І струменяць глыбінна крыніцы:
Беражыце!..

## ЗМЕСТ

Канапелька А.

К 19 Цвет алешыны: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 54 с.— (Першая кн. паэта).

20 к.

Кніга паэтэсы — пра еднасць чалавека з навакольным светам, пра любоў да сваёй Радзімы, пра разуменне жыцця як найвышэйшай паэтычнай дасканаласці. У шчырых, кранальных вобразах увасоблены паэткай успаміны аб вясковым маленстве, чалавечае сталенне, узнёсласць і драматызм кахання.

К $\frac{4702120200-003}{М\ 302(05)-85}$ 86—85 ББК 84Бел7

*Первая книга поэта*

**Алла Ивановна Конопелько**

ЦВЕТ ОЛЬХИ

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк. Мастак Г. Р. Малышаў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Я. А. Бебель.

ІБ № 2294
Здадзена ў набор 07.08.84. Падп. да друку 28.09.84. АТ 05758. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,05. Ум. фарб.-адб. 3,44. Ул.-выд. арк. 1,81. Тыраж 2000 экз. Зак. 646. Цана 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.